# БЕЛАРУСКАЯ МОВА АРАБСКІМ ПІСЬМОМ

У канцы 1968 года ў Вільнюсе выйшла цікавая кніжка кандыдата філалагічных навук А. К. Антановіча, **Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система.** Гэта навуковае даследванне выдаў Вільнюскі дзяржаўны ўніверсітэт імя В. Капсукаса, якога супрацоўнікам з'яўляецца аўтар кніжкі.

Аб'ёмістая, налічваючая 418 старонак праца дзеліцца на наступныя галоўныя раздзелы: 1) Уводзіны; 2) Агляд беларускіх тэкстаў XVII—XX стагоддзяў; 3) Графіка і арфаграфія; 4) Кароткія вывады; 5) Заўвагі і дапаўненні. Пасля гэтага даецца на англійскай мове рэзюме. У канцы працы знаходзяцца дадатковыя звесткі. Гэта: а) Рэестр выкарыстаных рукапісных крыніц і іх скарачэнні; б) гласарый; в) паказальнік імён; г) паказальнік геаграфічных назваў; д) спіс ілюстрацый; е) літаратура прадмета.

Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом, з'явіліся ў Літве і Беларусі разам з татарамі, якія пасяліліся тут у XIV—XV стагоддзях, а іх патомкі жывуць і цяпер. Татары пражываючыя ў Вялікім княстве Літоўскім хутка забылі сваю родную мову і пачалі карыстацца беларускай і польскай мовамі.

Беларуская мова стала не толькі жывой народнай мовай шматлікіх калоній літоўскіх татар, але і мовай некаторых жанраў мусульманскай рэлігійнай літаратуры, а таксама ўсходняй свецкай пісьменнасці (рыцарскія аповесці, тлумачэнні сноў, вызначэнне шчаслівых дзён месяца, тыдня і т.д.). Неабходна ў гэтым месцы падкрэсліць, што мовай рэлігійнай службы, штодзённых малітваў была арабская, а потым турэцкая мова. Існавалі і падрадковыя пераклады карана.

Да нашых часоў захавалася параўнальна многа рукапісаў татарска-мусульманскай пісьменнасці ў перакладзе на беларускую мову. Усе яны напісаны арабскім пісьмом.

А. Антановіч у сваёй працы апісвае 24 рукапісныя помнікі XVII—XX стагоддзяў. З гэтага ліку: 8 кітабаў (**кітабам** татары называюць рукапісную кніжку акрэсленага складу); 10 хамаілаў (**хамаілы,** гэта меншыя па фармату кніжкі чым кітабы. Іх назва паходзіць ад слова **хамала** — насіць, г. зн. кніжачка, якую заўсёды носіцца пры сабе); 3 тафсіры (**тафсір,** гэта каран на арабскай мове з падрадковым перакладам); 1 таджвід; 1 турэцка-беларускі слоўнік-размоўнік і адзін дакумент дзелавой пісьменнасці.

З 24 рукапісаў знойдзеных і апісаных даследчыкам, у 10 азначана канкрэтная дата напісання, для апошніх 14 А. Антановіч сам акрэслівае час напісання або перакладу помніка на аснове вадзяных знакаў на паперы, а таксама па арфаграфіі і іншых прыкметах рукапісаў.

З рукапісаў, сабраных аўтарам кніжкі, 13 знаходзіцца ў Вільнюсе і вёсках Літвы, 4 у Мінску, 4 у Ленінградзе, 2 у Казані і 1 у Лейпцыгу. Шкада, што даследчык не мог выкарыстаць некалькіх рукапісаў літоўскіх татар, якія знаходзяцца ў Польшчы, між іншым у Сухаволі на Беласточчыне, а таксама ў Вроцлаве і Гданьску. Аўтар даследвання дзякуючы інфармацыі М. Канапацкага (глядзі стар. 43) ведае аб існаванні тэтых рукапісаў і можна спадзявацца, што ў будучыні выкарыстае іх у наступных працах над кітабамі дзеля дабра навукі.

Вывучэнне пісьменнасці літоўскіх татар прадстаўляе вялікую цэннасць для славістаў, арабістаў і турказнаўцаў. Аднак да гэтага часу пісьменнасць гэта была вельмі мала даследавана, асабліва з пункту гледжання беларускай мовы. Кніжка А. К. Антановіча «Беларускія тэксты пісаныя арабскім пісьмом...» з'яўляецца першым сур'ёзным навуковым даследваннем у гэтай галіне. На шматлікіх прыкладах аўтар апісвае графіку і арфаграфію беларускіх тэкстаў пісаных арабскім пісьмом, указвае на некаторыя асаблівасці графікі і арфаграфіі польскіх і сербскіх тэкстаў пісаных арабскім пісьмом у параўнанні з графікай беларускіх тэкстаў. А. Антановіч на аснове падрабязнага аналізу тэкстаў разглядаемых даследчыкамі Г. Флейшарам і А. Мухлінскім, адмоўна адносіцца да іх высказванняў аб існаванні ўкраінскіх тэкстаў пісаных арабскім пісьмом.

Вывучэнне помнікаў беларускіх тэкстаў пісаных арабскім пісьмом і параўнанне іх з беларускімі помнікамі пісанымі кірыліцай, дае магчымасць пастаноўкі і рашэння шматлікіх праблем гісторыі беларускай літаратурнай мовы, а таксама некаторых пытанняў гістарычнай дыялекталогіі беларускай мовы.

**Міхал Кандрацюк**

**Весткі са Старога Корніна**

# ЭФЕКТЫ ПАСТАНОЎ ПАРТЫІ

Грамадская рада нарадовая Стары Корнін ахоплівае шэсць салэцтваў з 514 гаспадаркамі. Сяляне гаспадаруюць на плошчы 4274 га, у тым ліку 2814 га ворыва, 656 га лугоў, 755 га выганаў. Зямля тут сярэдняй якасці, што дае магчымасць весці як раслінную, так і жывёлагадоўчую гаспадарку. Аднак дасягнутыя вынікі да гэтай пары не былі задавальняючымі. Не ўсе існуючыя рэзервы былі выкарыстаны.

Дзякуючы ўвядзенню ў жыццё пастаноў IX пленума, удалося выявіць існуючыя рэзервы. 1968 год быў першым перыядам выкарыстання вытворчых рэзерваў і ўвядзення новых заданняў. У гэтым напрамку працаўнікі грамадскай рады разам з сельскагаспадарчай службай і іншымі вясковымі аб'яднаннямі скіравалі свае намаганні на ўвядзенне сельскагаспадарчага прагрэсу сярод сялян. Некаторыя заданні можна было рэалізаваць шляхам правядзення курсаў, паказаў, павышэння свядомасці сялян у неабходнасці прымянення тых ці іншых метадаў. Укладзеная праца дала вынікі. Радыкальна павялічылася колькасць выкарыстаных мінеральных угнаенняў — з 50 кг NPK на гектар угоддзяў у 1967 годзе да 68 кг — у 1968 г. Варта назваць тут сялян з вёскі Ягаднікі, якія дасягнулі планаванага ўзроўню — 80 кг на гектар, сялян вёскі Махнатае, якія дабіліся паказальніка 75 кг/га. Як ніколі раней, было рассыпана на палі нашай грамады 450 тон вапны. Гэтым быў дасягнуты грамадаўскі паказнік — 1 цэнтнер вапны на гектар сельгасугоддзяў. А сяляне вёскі Стары Корнін нават перавысілі гэты паказнік на 0,9 ц., а з Ягаднікаў — 0,2 ц.

Было засеяна кваліфікаваным адноўленым зернем 260 га жыта, 120 га аўса, 48 га азімай пшаніцы. Варта дадаць, што 60% пасяўнога матэрыялу было запраўлена дадаткам супраць хвароб. Усё гэта спрыяла павышэнню ўраджайнасці: ураджай 4 збожжавых культур павысіўся на 0,7 ц., бульбы — на 7 ц., кармавых буракоў — на 5 ц., сена — на 3 ц. У час рэалізацыі гэтых заданняў мы сустракаліся з сур'ёзнымі цяжкасцямі, асабліва ў галіне аховы раслін. Некаторыя сяляне не згаджаліся на хімічную барацьбу з пустазеллем і хваробамі раслін. Аднак, дзякуючы вялікаму ўкладу працы, было апырскана для барацьбы з пустазеллем 280 га, супроць стонкі было зроблена апырскванне на плошчы 463 га. Апрача таго, хімічнай барацьбой былі ахоплены плошчы пад рапаком, льном і цукровымі буракамі. Сяляне пачалі сеяць, чаго да гэтай пары не рабілі, паіржышчавыя культуры, хоць пакуль яшчэ ў невялікіх колькасцях. Несумненна, перакананне на практыцы, якую карысць даюць паіржышчавыя, будзе спрыяць пашырэнню вырошчвання гэтых культур. Арэал падсевак значна павялічыўся ў параўнанні з 1967 годам.

Гэтыя культуры маюць непасрэдную сувязь з жывёлагадоўляй, бо яны падаўжаюць перыяд пашавага выгану: падсеўкі — да позняй восені, а паіржышчавыя азімыя культуры — гэта зялёны корм ужо ў канцы красавіка і пачатку мая. Прымяненне вышэй названых метадаў павелічэння кармоў будзе і далей працягвацца з мэтай пашырэння жывёлагадоўлі. У гэтай галіне мы атрымалі задавальняючы паказнік жывёлагадоўлі на 100 гектараў: буйнай рагатай жывёлы 40,8 галоў (у павеце — 37,2), свіней — 59,6 (у павеце — 59,3).

На 1969 год ужо накрэслены новыя заданні, якія бяруць пад увагу магчымасці гаспадаркі. На вясковых сходах сялянам былі прадстаўлены новыя заданні, выяснена неабходнасць прымянення ў гаспадарцы новых метадаў гаспадарання і вынікаючай з гэтага карысці.

Пастараемся зрабіць усё, каб выканаць планаваныя заданні і даць грамадству больш збожжа і іншых прадуктаў.

**Мікалай Пракапюк**
Стары Корнін

# Этнаграфія



**Студня і хата ў Зверках, Беластоцкага павета. Фота: Г. Рагазінскі**

# ФПіУ у Бельску

Адным з найбольшых дасягненняў Бельшчыны ў апошніх гадах з'яўляецца пабудова філіялу Беластоцкай фабрыкі прылад і ўхвытаў. Завод будзе ўрухомлены ў 1970 годзе і ў тым жа часе зможа прыняць на работу 350 працаўнікоў. У наступнай пяцігодцы прадбачваецца далейшая разбудова завода, а гэтым самым затрудненне павялічыцца да 1200 чалавек.

Будзе гэта найвялікшы завод у павеце, які дазволіць развязаць праблему надвыжкі рабочай сілы. (к)

# Людзі БГКТ

## ВАСІЛЬ АНТЫПЮК



**Нарадзіўся ў Рыбаках каля мястэчка Нарва. Тут у роднай вёсцы пазнаваў першыя радасці і цяжкасці. Тут вучыўся ў пачатковай школе, тут застала яго нямецкая акупацыя, тут, будучы шаснаццацігадовым хлапчуком, развітаўся з бацькам і малодшымі сёстрамі і братамі, калі немцы забіралі яго на прымусовыя работы ў Германію.**

**Васіль Антыпюк з дзяцінства любіў співаць. Песня была спадарожнікам усюды.**

**— І як не прыходзілася цяжка ў рабочым лагеры, — успамінае Вася, — але калі песня з табою, калі яе зацягнеш, хаця не на ўвесь голас, лягчэй рабілася на душы і туга за домам, за свабодай лягчэй зносілася.**

**У 1945 годзе вяртаецца ён з Нямеччыны ў родную вёску Рыбакі і разам з бацькам цяжка працуе на гаспадарцы і пры будове згарэўшых будынкаў.**

**Пасля вызвалення не было спакойна на Беласточчыне. Гераічная маладзёжная арганізацыя Саюз барацьбы маладых (ЗВМ) вёў вялікую палітычную работу сярод моладзі і змагаўся з рэакцыйным падполлем. Вася тады ўжо менш памагае бацькам, а больш працуе ў ЗВМ у Бельску Падляшскім. Тут прымаюць яго ў Польскую рабочую партыю (ППР). Выконвае ён шмат партыйных паручэнняў.**

**У 1948 годзе бяруць яго ў армію. Канчае ён там падафіцэрскую школу, і пасля заканчэння вайсковай службы кіруюць Васю на працу ў органы бяспекі, пачаткова ва Вроцлаве, пазней у Граеве. Яшчэ і пасля 1950 года на Беласточчыне працягвалася барацьба з бандамі. І Васілю Антыпюку неаднойчы прыходзілася браць удзел у акцыях супраць рэакцыі і падвяргаць сваё жыццё. І былі цяжкія хвіліны і смерць была па-суседску. Але неяк перажылося найцяжэйшы перыяд.**

**— Мусіць песня памагае перанесці ўсё, што здавалася часам немагчымым, — жартоўна гаворыць Вася. — Песня падтрымлівала на духу, падбадзёрвала, гартавала.**

**Вася заўсёды дружыў з тымі людзьмі, салдатамі, працаўнікамі бяспекі, а пасля міліцыі, якія любілі песню.**

**Я пазнаёміўся з Васем на пачатку 1956 года ў Граеве ў майго прыяцеля аднавяскоўца Уладзіміра Хомчыка, які таксама славіўся прыгожым голасам. І тады Вася з Валодзем співалі, співалі так прыгожа савецкія песні, што па сённяшні дзень помніцца гэтая сустрэча.**

**Ад 1961 года Вася Антыпюк афіцэрам міліцыі працуе ў Бельску Падляшскім.**

**Займаецца ён культурна-асветнай працай. Гэта праца яму па душы, бо ён неразлучны з песняй і музыкай. Добра ён таксама іграе на акардэоне. Больш таго, арганізаваў акардэонную групу і ў хуткім часе яна будзе выступаць.**

**У Бельску ад даўжэйшага ўжо часу існуе пры аддзеле Беларускага таварыства харавы калектыў. Любоў да песні здружыла Васю Антыпюка з хорам. Харысты выбралі яго старшынёю рады хора. Пяціасабовая рада хора пад яго кіраўніцтвам найбольш займаецца арганізацыйнымі справамі, цікавіцца прысутнасцю членаў хора на рэпетыцыях, цікавіцца выездамі на канцэрты, арганізаваннем вечарын і г.д. А колькі зноў вядзецца гутарак з праўленнем аддзела БГКТ адносна рэпертуару, адносна мастацкага ўзроўню, адносна ўсіх спраў звязаных з дзейнасцю хору. А хор дабіўся ўжо добрых вынікаў і карыстаецца ва ўсім павеце вялікай папулярнасцю. Такія харысты ўлюбёныя ў песню, як Вася Антыпюк, прысвячаюць шмат часу, каб расславіць, між іншым, і беларускую песню.**

**М. Хмялеўскі**

# БГКТ

(Працяг са стар. 1)

бовае праўленне аддзела, 3-асабовую рэвізійную камісію і дэлегатаў на VI з'езд Беларускага таварыства. Канферэнцыя закончылася прыняццём праекта пастановы адносна далейшых напрамкаў працы аддзела. У канферэнцыі ўзялі ўдзел: старшыня ГП — Вінцук Склубоўскі, сакратар ГП — Уладзімір Юзвюк і член прэзідыума ГП, галоўны рэдактар «Нівы» — Георгі Валкавыцкі. Вёў канферэнцыю Міхась Хмялеўскі.

Пасля канферэнцыі адбылося пленарнае пасяджэнне, якое выбрала прэзідыум праўлення аддзела. У склад яго ўвайшлі: Кастусь Масальскі — старшыня, Уладзімір Куршэль намеснік старшыні, Іван Стрышко — сакратар, Анна Амброжэй і Уладзімір Навіцкі — члены прэзідыума.

Рэвізійная камісія: Хведар Садоўскі — старшыня, Хведар Бароўскі — намеснік старшыні і Уладзімір Міхалюк — сакратар.

На канферэнцыю была падрыхтавана багатая мастацкая частка, у якой выступілі: навучэнцы ігры на акардэоне пад кіраўніцтвам Веслава Дзюбінскага, школьнікі — дэкламатары беларускіх вершаў — Аня Стрышко, Ніна Масальская і Аня Младзяноўская; члены былога калектыву «Самасейкі» ў асобах: Ніна Саковіч і Ніна Смольская — салісткі, Андрэй Копэць — акардэаніст і Яўгенія Цімашук — дэкламатар. Потым выступіла наша папулярная эстрада «Лявоніха».

**Міхась Хмялеўскі**

Пачатак на стар. 1



## ГАЛАСУЮ ЗА КНІЖКУ

такога ж самага — ні лепшага, ні горшага — бытавога ўзроўню, як усе іншыя грамадзяне нашай краіны. Асаблівых, нейкіх толькі нам, беларусам, уласцівых, эканамічных патрабаванняў мы не маем. Наш бытавы і палітычны лёс у добрых руках — у руках Польскай аб'яднанай рабочай партыі. **Пры цяперашніх умовах жыцця, беларус — грамадзянін ПНР — тым адрозніваецца ад іншага грамадзяніна ПНР,** што ў беларуса — нават не іншыя — **а толькі дадатковыя запатрабаванні на духовую ежу.** Ведаю, што гэта вельмі ўпрошчаны вобраз, але ён, па-мойму, адлюстроўвае сутнасць справы.

Дык галасую за тое, **каб БГКТ менавіта на гэтым полі сканцэнтравала асноўны запас сваіх сіл і магчымасцей.** Хай заквітнее гэтае поле новымі тамамі паэзіі, зборнікамі, апавяданнямі, аповесцямі, раманамі, даследчымі кніжкамі, літаратурнымі альманахамі, хай адазвецца звонкімі песнямі жывых калектываў і доўгаіграючых пласцінак!

БГКТ аднак зможа гэтага дасягнуць толькі тады, калі шмат чаго зменіцца ў арганізацыі дагэтуляшняй, перш за ўсё выдавецкай дзейнасці. Грамадскім чынам можна выдаць адну або дзве кніжкі. І тады можна гэтым ганарыцца. **Не думаю, каб можна было нам аднак ганарыцца тым, што ўся выдавецкая дзейнасць БГКТ засноўваецца на грамадскіх пачатках.** Заўсёды трэба знайсці нейкага энтузіяста высокароднай справы, або звычайнага ахвярнага казла, каб на яго ўзваліць адказную, карпатлівую працу. Калі так не бывае, дык нейкая кніжка або каляндар трапляе ў рукі халтуршчыка, які адносіцца да яе, як да смачнага дабавачнага куска заработку.

Падрыхтоўка кніжкі — справа вельмі складаная. За кожным разам трэба прачытаць сотні старонак машынапісу, трэба іх ацаніць, адабраць зерне ад мякіны і гэтак далей, і гэтак далей. **Толькі выдавецкаму аддзелу, якога не мае Галоўнае Праўленне БГКТ, была б пад сілу такая адказная работа, — аддзелу з поўнай адказнасцю за сваю прадукцыю, аддзелу, у якім працавалі б адпаведна адукаваныя людзі. Дагэтуляшнія дасягненні поўнасцю апраўдоўваюць такое патрабаванне.**

**Віктар Рудчык**




## СМЕРЦЬ ДЗЯДЗЬКІ ФЁДАРА

Амаль увесь дзень прахадзіў я дарогамі і сцежкамі паміж Ласінкаю, Тыневічамі і Курашавам. Дзень быў марозны, але ціхі і сонечны. Раніцаю вісеў пышны, пушысты іней на дрэвах, і вёскі мелі казачны выгляд. З комінаў проста да неба ішоў дым пахучы вясковымі дрэвамі, смажанай скваркай і хатнім цяплом. У Камені пачаставалі мяне прымёрзлымі яблыкамі, якімі яшчэ цяпер у другой палове лютага кормяць тут каровы. Потым пайшоў я ў Лапухоўку, каб наведаць свайго старога знаёмага дзядзьку Фёдара Леўчука.

Нёс я для дзядзькі Фёдара добрую вестку: удалося мне адшукаць яго ваенныя дакументы, якіх дзядзька шукаў па ўсёй краіне. Звярнуў я ў знаёмы панадворак і запытаў сустрэчнага мужчыну, ці застаў я дома дзядзьку Фёдара.

— Каго? — спытаў у сваю чаргу мужчына.

— Фёдара Леўчука, — паясніў я.

— Няма яго ўжо, — адказаў мужчына. А пасля дадаў значна цішэй: — памёр. Ужо два месяцы будзе, як памёр. Гэта мой бацька.

— Шкада, — сказаў я разглядаючыся бязрадна па панадворку з той асаблівай бязраднасцю, калі не вядома, як рэагаваць на смерць старога ўжо чалавека і што гаварыць далей.

— Шкада, — сказаў я яшчэ раз не знайшоўшы нічога лепшага, падаў мужчыне руку ды пайшоў далей сваёю дарогаю.

Аб дакументах дзядзькі Фёдара не расказваў. Яны цяпер тут нікому не патрэбны. Дзеці пасля пахавання старых бацькоў хутка пераходзяць да практычных спраў сваёй штодзённасці. Што каму да дзядзькавай ваеншчыны, калі нікому з яе ніякай карысці? Смерць нішчыць не толькі фізічна чалавека, але цэлы багаты свет яго праблем, спраў і ўяўленняў. Застаўся ў мяне толькі вобраз дзядзькі Фёдара, які некалькі месяцаў таму назад расказваў аб сваім вялікім падарожжы ў Варшаву. Паехаў дзядзька ў Варшаву, каб знайсці свае дакументы, у якіх было даказана, што ён, Фёдар Леўчук, змагаўся падчас рэвалюцыі ў радах Чырвонай Арміі і быў ранены ў баях. Дакументы аддаў быў дзядзька камусьці ў Павятовым камітэце партыі, потым аніяк не мог іх адшукаць. Узяўшы тады ў руку свой неадлучны кій, паехаў Фёдар Леўчук у вялікую, мнагалюдную Варшаву. Размаўляючы па-руску, або проста па-лапухоўску дапытаўся туды, дзе «ўрадуе сам Уладзіслаў Гамулка» — у Цэнтральны Камітэт партыі. Прынялі там дзядзьку Федзю як трэба, распыталі ўсё толкам, а потым накіравалі ў інстытут гісторыі партыі, які месціцца ў аграмадным Палацы культуры. Тут дзядзьку з Лапухоўкі прыняла маладая і вельмі мілая пані, міла папрасіла сесці, гаварыла з дзядзькам па-руску. Перагартала горбы папераў, а дакументаў дзядзькі не знайшла. Потым сказала, што яны могуць быць у Беластоку і падала адрас асобы, да якой у гэтай справе трэба звярнуцца. Адрас гэты дзядзька Фёдар паказаў мне. Быў гэта адрас таварыша Насовіча з Ваяводскага камітэта ў Беластоку. У таварыша Насовіча сапраўды былі дакументы Фёдара Леўчука. І з гэтай звесткай ішоў я ў гэту вёску. У Лапухоўцы аказалася яна нікому не прыдатнай.

Іду тады снежнымі палямі, а ў вушах голас дзядзькі Фёдара.

— Ох, каб вы мне памаглі знайсці мае дакументы! Мы б яшчэ з вамі пагаварылі. І яшчэ як! Я калісь быў чалавекам, нешта значыў і бачыў усяго на свеце.

— Памагу, дзядзька, памагу.

— О, дружок! Ёсць толькі двух людзей добрых на свеце. Гэта пані К. з «історыі партыі» і вы. Яна поўдня шукала маіх папераў. Сказала мне: сядайце, міленькі, а потым паўдня шукала!

Падумаў я тады, як мала трэба чалавеку да шчасця на змярканні жыцця, і як лёгка заслужыць на яго бязмерную ўдзячнасць. На жаль, паехаў я ў Лапухоўку на два месяцы запозна.

На палях паміж Лапухоўкай і Ласінкай усё звычайна: снег заліты сонцам і дзе-нідзе дрэвы ў інею. Вясной выйдуць у поле трактары, закалосіцца збожжа, людзі займуцца ўсур'ёз сваімі гаспадарчымі справамі. І ніхто ў Лапухоўцы не будзе памятаць аб тым, што жыў тут салдат рэвалюцыі і ніхто не будзе ведаць аб вялікай турботе апошніх яго дзён: як знайсці дакументы, якія пацвердзілі б яго месца і яго вартасць у гэтым свеце.

**Ул. Паўлючук**

Пачатак на стар. 1

## Гарадоцкая трыкатажная

грамадскіх рад нарадовых, з якіх можа быць прыплыў рабочых рук.

Нам выдаецца, што боязнь гэтая беспадстаўная, а гэта таму, што кожны год з гэтых мясцовасцей многа людзей, пераважна маладых, выязджае ў многія гарады Польшчы толькі таму, што ва ўсходніх мясцовасцях Беласточчыны няма большых фабрык. Трэба таксама ўлічыць больш як 8 грамад, з якіх прышлі б людзі да працы ў Гарадок. Я ведаю вёскі такія, як Гураны, Свідзялоўка, Крушыняны, тры Астравы і іншыя вёскі, дзе многія маладыя людзі, а перад усім дзяўчаты хацелі б дастацца да працы ў Гарадок.

**На здымку: Анатоль Кандрусік. Міхась Хмялеўскі**




**Паважаныя Таварышы!**

Сардэчна дзякую Вам за змяшчэнне ў газеце «Ніва» 2 лютага 1969 года майго пашукальнага пісьма. Праўда, я яго сам не чытаў у газеце. Аб гэтым паведаміў мне адзін грамадзянін з Бельска Падляшскага, які адгукнуўся на маю просьбу, але не па тэтаму пытанню: Дзякуй яму вялікае, што ён палічыў патрэбным напісаць.

Дарэчы, ён паведаміў цікавую гісторыю, якая адбылася летам 1943 года ў Белавежскай пушчы. (Праўда, не піша ў якой ваколіцы): «Атрад партызан у саставе 5—7 чалавек рухаўся дарожкай па акраіне паляны. Раптам насустрач немцы. Завязалася перастрэлка. Немцаў было куды больш, чым партызан. Недалёка паслася стада кароў. Партызаны пачалі адыходзіць за стада. Фашысты перасталі страляць. На месцы сутычкі засталіся мёртвымі два маладыя партызаны ў скураных куртках. Іх пахавалі сяляне. Дзе адбылася сутычка, ён не піша, не называе свайго прозвішча. Але гэта вельмі важна. Трэба даведацца, дзе і хто загінуў у барацьбе з нямецкай зграяй. Людзей без імён не было. Усе загінуўшыя вартыя таго, каб знайсці іх месца смерці, даведацца больш аб іх жыцці і змаганні ў імя ўсяго чалавецтва.

А гэта адбылося ў сакавіку 1944 года на вузкакалейцы. Мабыць у кв. 632, 599, 665, 669 ці 517, 518, 519, 521, 522, 523, 524 г. зн. на вузкакалейцы. Вось тут загінулі Вася Каробка і Сычоў. А астатнія асталіся ў жывых. Я далей пісаў аб прыгожых сем'ях і двух доміках. Дзе яны? Як хочацца, каб яны адгукнуліся.

Буду спадзявацца, што прыдзе час, калі атрымаю вельмі прыемны ліст. У гэтым, безумоўна, будзе ўся Ваша, таварышы, заслуга і вялікая ўдзячнасць ад многіх маіх таварышаў.

З павагай да вас М. Мамус

БССР, Брэсцкая вобл.
п/а Камянюкі

## За кніжкі ПКО — самаходы

Не мала шчасця мелі ўладальнікі прэміяваных самахадовых кніжак ПКО, якія залажылі ў Бельскім аддзеле. У студзені гэтага года ў часе лясавання, на агульны лік 800 самахадовых кніжак ПКО **выйграна тут аж 5 самаходаў.** У тым ліку знаходзяцца: 3 «Сырэнка», 1 «Масквіч» і 1 «Фіят 125 П». З гэтага ж аддзела ПКО у студзені быў выйграны адзін мотаровер.

Іншай формай прэміяваных кніжак з'яўляюцца грашовыя прэміі. Кліенты Бельскага аддзела, уладальнікі прэміяваных кніжак ПКО, выйгралі ў студзені т.г. аж **119 грашовых прэмій,** у тым ліку 6—200 працэнтаў, 10—100 працэнтаў і апошнія па 50 працэнтаў укладу.

З так званага кастрычніцкага ашчаднага конкурсу на Бельскі аддзел ПКО прыпала **25 узнагарод.** **(АК)**

## Наш Каляндар

**400 гадоў таму, 17 сакавіка 1569 года, у заблудаўскай друкарні Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца ўбачыла святло «Учительнае евангелие». Гэта кніга займае важнае месца ў гісторыі беларускага кнігадрукавання. Аб заблудаўскім перыядзе дзейнасці І. Фёдарава і П. Мсціслаўца і расказвае ў сваім артыкуле вядомы беларускі гісторык літаратуры С. Майхровіч.**

## У ІМЯ КНІГІ

Чатырыста гадоў назад Іван Фёдараў разам са сваім аднадумцам беларусам Пятром Мсціслаўцам пераехаў з Масквы ў Заблудаў і тут прадоўжыў сваю кнігавыдавецкую, асветніцкую дзейнасць.

Шмат легенд выдумана ў сувязі з пераездам Івана Фёдарава. Ва ўсякім разе не так званы «маскоўскі пажар», які быццам цалкам паглынуў Фёдараўскую друкарню, і не праследванні царкоўных раскольнікаў, так званых «ёсіфлянаў», прымусіў Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца «ўцячы ў Літву». Сапраўдная прычына гэтых свядома задуманых, на наш погляд «уцёкаў» тоіцца значна глыбей, у тых сацыяльна-палітычных падзеях эпохі, якія пагражалі самому нацыянальнаму існаванню беларускага насельніцтва і аб'ектыўна стваралі небяспеку для Маскоўскай дзяржавы.

Найбольш рэальным, што можна было выдумаць у той крытычны момант для ўзмацнення маральнага аўтарытэту Маскоўскай Русі ў заходнім краі, з'ўлялася пашырэнне рускага ўплыву шляхам абароны праваслаўя, як сімвала «рускай нацыянальнасці», яе роднай мовы і культуры. Няма чаго і казаць, якую неацэненую паслугу мог зрабіць у такім становішчы друкарскі станок. Меў рацыю акадэмік М. Н. Ціхаміраў, калі сцвярджаў, што «переезд у Літоўскае вялікае княства» Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца «быў ажыццёўлены з дазволу цара». Гэта зноў-такі меркаванне, але — рэальнае, абгрунтаванае гістарычнымі доказамі, якія «больш здавальняюча, — сцвярджае даследчык, — тлумачаць пераезд першадрукароў у другую краіну са шрыфтамі і дошкамі, чым выдумка аб іх тайных уцёках».

Трэба мець яшчэ на ўвазе, што та-



**Так магла выглядаць, мяркуючы па тагачаснай граўюры, друкарня ў Заблудаве.**

гачасныя заходнерускія дзеячы самі даўно ўжо шукалі арганізацыйных кантактаў з маскоўскімі ўплывовымі палітыкамі і асветнікамі. Яшчэ, відаць, у пачатку 1565 года беларускія магнаты Хадкевічы звярнуліся разам з віленскім епіскапам да маскоўскага мітрапаліта і баяраў з прапановай аб адзінстве дзеянняў супраць ганіцеляў «рускай веры» ў Заходнім краі. Крыху пазней, у час перамір'я, Маскву наведала пасольства на чале з Юрыем Хадкевічам. Зусім верагодна, што менавіта ён і перадаў папулярнаму ў Заходняй Русі рускаму першадрукару прапанову гетмана Рыгора Аляксандравіча Хадкевіча пераехаць у заблудаўскую вотчыну і тут разгарнуць кнігавыдавецкую дзейнасць. Больш таго, ёсць рэальныя доказы, што гетман Хадкевіч непасрэдна звяртаўся да маскоўскага цара адпусціць у Заходні край рускіх кнігадрукароў, на якіх ускладалася вялікая надзея ў той крытычны момант барацьбы супраць каталіцкай агрэсіі.

Так ці інакш, а пераезд гэты адбыўся, найбольш праўдападобна, у канцы 1565 года. Гетман Хадкевіч быў уплывовы палітык-магнат і буйны ваенны аўтарытэт. Пад яго эгідай Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец адчувалі сябе як у родным доме, дзе панаваў поўны матэрыяльны дастатак, а пашана і прывілеяванне становішча толькі натхнялі на творчую працу ў імя народа. І хоць у Заблудаве выйшлі ў свет дзве кнігі: «Учительнае евангелие» (1569), выдадзенае супольна з Пятром Мсціслаўцам і «Псалтыр» (1570 г.), падрыхтаваны і выпушчаны адным Іванам Фёдаравым, тым не менш «маскоўскія пасланцы» навечна ўвайшлі ў гісторыю беларускага кнігадрукавання. Яны прадоўжылі асветніцкую справу свайго геніяльнага папярэдніка — Георгія Скарыны — на яго роднай зямлі.

Першае заблудаўскае выданне, «Учительнае евангелие» менш за ўсё было разлічана на богаслужэнне і прызначалася, галоўным чынам, для чытання

 

# ВАЕННАЙ ТРАГЕДЫІ — ПРАЦЯГ



Здарылася гэта зімой 1943 года. У вёсцы Бацечкі пад Беластокам жыла адна, праўдападобна, руская сям'я: двое дзяцей і бацькі. Бацька быў савецкім партызанам, маці недзе працавала, а дзеці — чатырохгадовая дзяўчынка і шасцігадовы хлопчык — аставаліся дома. Аднойчы ноччу бацька разам з іншымі партызанамі наведаў сям'ю ў Бацечках. І тады здарылася гэтая трагедыя. Хтосьці паведаміў немцаў. Акружылі яны хату. Што здарылася пасля, гэтага дакладна не ведаю. Дзяўчынка, якая зараз называецца Эва Скалка і жыве ў Лапах, ведае толькі, што і яна, і яе брат асталіся без бацькоў. Пра яе трагічны лёс пісаў я падрабязна ў снежні мінулага года. І яна і яе брат трапілі ў Беласток да розных сем'яў. Братам заапекавалася Леакадзія з Камінскіх Цюкова. Варта яшчэ звярнуць увагу на адзін сказ успамінаў Эвы Скалкі. Пісала яна: **«...прыйшло да нас многа жанчын і ваенных, мама нас і ўсе іншыя дзеці, якія прыйшлі да нас са сваімі мамамі, завяла ў маленькі пакойчык...»**

Значыць, у той момант, калі разыгралася ў Бацечках трагедыя, разам з Эвай і яе братам знаходзіліся яшчэ іншыя дзеці! Так! Нават больш! Удалося мне ўстанавіць, што адна дзяўчынка разам з братам Эвы трапіла ў Беласток менавіта да Леакадзіі Цюк. Яна іх ахрысціла. Хлопчык атрымаў імя Эдвард, а дзяўчынка — Марыся. Хрэст гэты адбыўся ў Беластоку ў касцеле Фарным (чырвоным) ужо пасля вайны — у снежні 1944 года.

На жаль, Леакадзія Цюк аказалася для іх мамай з зязюльчыным сэрцам. Беручы пад сваю апеку няшчаслівых сіротак, відавочна не думала па-сапраўднаму заступіць ім родную маму і выгадаваць іх, як сваіх родных дзяцей. Цяжка пісаць пра гэтыя балючыя справы. Паслухайце тады лепш успамінаў Марыі Цюк.

«...Леакадзія Цюк, па бацьку Камінская, не была нашай сапраўднай мамай. Яна ўзяла нас на выхаванне ў час вайны, або зараз пасля вайны, гэтага добра не памятаю. Жыла яна ў Беластоку. Мы (гэта значыць яна — Марыся і Эдзік) крыху хадзілі ў школу, але не пастаянна, хіба па яе віне, і было нам у яе вельмі дрэнна. Яна біла і мучыла нас — гэта немагчыма нават апісаць.

Памятаю, што аднойчы мяне і Эдзіка павяла яна ў горад. Зайшлі мы ў нейкі дом. Там яна з нейкімі мужчынамі штосьці гаварыла пра Эдзіка. А Эдзік, трэба вам ведаць, як на яго гады, быў вельмі разумным хлопчыкам. Памятаю тады, што Цюкова з гэтымі мужчынамі абмяркоўвала справу Эдварда. І ён ужо з гэтага дому разам з намі не вярнуўся. Я плакала, не хацела без яго ісці, але гэта ў нічым не памагло. Цюкова мяне толькі адлупцавала і сілай пацягнула з гэтага дома. Яна яго прадала гэтым людзям, бо пасля я бачыла ў яе вельмі многа грошай. Купляла для сябе прыгожыя, дарагія рэчы».

Не хацелася мне верыць, каб штосьці такое магло здарыцца. Гэта ж было ўжо пасля вайны. Гандаль жывым таварам? У нас, у Беластоку?

Марыя Цюк аднак упарта паўтарала сваё. У наступных лістах яна пісала: **«Я нават перад Госпадам Богам, калі такі існуе, магла б прысягнуць, што Цюкова прадала Эдварда гэтым мужчынам, а напэўна былі гэта яўрэі.** Усё гэта астанецца ў маёй памяці аж да смерці. Добра памятаю, што дзверы адкрыла нам старэйшая жанчына, даволі тоўстая, падобная таксама на яўрэйку. У пакоі знаходзіліся гэтыя мужчыны, відавочна ўжо чакалі на нас. Апранутыя былі ў плашчы, па ўзросту — сярэдніх год. Памятаю, як Цюкова лічыла за сталом грошы, а яны стаялі побач».

Так Цюкова пазбылася аднаго дзіцяці — Эдзіка. Што з ім здарылася далей, на жаль, пакуль што не ведаю. Ды прызнаюся, што не спадзяваюся, каб можна было б штосьці больш даведацца. Хіба людзі добрай волі нам дапамогуць. Звяртаюся тады да ўсіх чытачоў: дапамажыце нам у пошуках таго чалавека, які ведае, што калісьці называўся Эдвард Цюк, а якога прыбраная маці прадала чужым людзям.

Што аднак сталася з дзяўчынкай? Аб гэтым найлепш раскажа яна сама.

«Я вельмі палюбіла Эдзіка, ён быў добры для мяне. Дык я пастаянна дапытвалася ў Цюковай пра яго, дзе ён знаходзіцца. Цюкова нічога не гаварыла, толькі яшчэ больш заўзята біла мяне і мучыла. Урэшце я ўсяго гэтага не стрымала і ўцякла ад яе. Міліцыя завяла мяне ў магістрат і там я ўсё расказала. Аддалі мяне на выхаванне ў дзіцячы дом, які тады ў Супраслі пад Беластокам вялі манашкі. Быў гэта 1946, або 1947 год».

Марыся закончыла пачатковую, а пасля прафесіянальную школу. Зараз яна жыве на Слёнску і з'яўляецца прадзільшчыцай. Ужо замужняя.

Леакадзія Цюк незадоўга пасля гэтага выехала з Беластока і невядома дзе зараз жыве. Хацелася б яе адшукаць. Яна ж найлепш магла б раз'ясніць усю гэту ваенную трагедыю дзяцей, якія зараз з'яўляюцца ўжо ўзрослымі людзьмі, для якіх вайна не закончылася разам з салютам перамогі і яе злавесны цень распасціраецца на ўсё іх жыццё. Бо толькі падумайце: гэтыя ж людзі па сённяшні дзень не ведаюць, кім яны па сапраўднасці з'яўляюцца, хто іх бацькі, дзе іх сваякі.

**Віктар Рудчык**

**На здымку: Марыся Цюк сёння.**

# СЯЛЯНСКАЕ САМАКІРАВАННЕ

У пастановах V з'езда ПАРП гаворыцца, што інтэнсіфікацыя сельскай гаспадаркі, развіццё спулдзельчасці і ўзрастаючыя заданні ў галіне прадукцыйных, гандлёвых і фінансавых паслуг патрабуюць большай актыўнасці спулдзельчага самакіравання на вёсцы, а таксама запэўнення яго членам удзелу ў загадванні і грамадскім кантролю над дзейнасцю спулдзельні. Як гэта выглядае ў рэалізацыі, разгледзім на прыкладзе Бельскага павета.

У апошніх двух гадах асаблівую ўвагу звернута тут на разбуджэнне прадукцыйнай і грамадскай актыўнасці жыхароў вёскі. Гэта мела запэўніць стварэнне карыснай атмасферы сярод гаспадароў для падымання згодных з патрэбамі прадукцыйных рашэнняў. Такую форму рэалізавана перш за ўсё арганізуючы непасрэдныя сустрэчы павятовага актыву з акрэсленымі групамі вытворцаў, а таксама ўкіруноўваючы працу паасобных самакіраванняў на вёсцы.

Вядучай арганізацыяй гаспадарскага самакіравання з'яўляюцца сельскагаспадарчыя гурткі. У павеце згуртоўваюць яны **8290 членаў,** што абазначае ўзрост у параўнанні да 1966 года на 34 працэнты. Узрастаючыя запатрабаванні на сельскагаспадарчыя машыны і іншыя прылады прымусілі ўлады звярнуць найвялікшую ўвагу на канцэнтрацыю дзейнасці сельгасгурткоў у т.зв. базах машынновых і вядучых сельгасгуртках. Адначасова звернута ўвагу, каб такія напрамкі працы не паменшылі ў існуючых гуртках ролі гаспадарскага самакіравання. Паклікана дзеля гэтага рады карыстальнікаў баз машынновых і вядучых гурткоў, якімі апекаваліся працаўнікі непасрэдна адказныя за гэтую дзялянку дзейнасці. У канцы 1968 года ў Бельскім налічвалася 5 міжгуртковых баз. Нават кароткая іх дзейнасць дазваляе ўбачыць дасягненні. Усе базы мелі дадатні баланс (з даходамі), а статыстычны трактар у базах выпрацаваў больш 1000 гадзін. Характэрным прыкладам можа быць сарганізаванне ў 1968 годзе, — з сельгасгурткоў, якія на працягу мінулых год прыносілі страты, каля 40 тысяч зл. у год — **базы машыновай у Пасынках.** Гэтая ж база на канец 1968 года замкнула сваю дзейнасць дадатнім балансам з лікам каля **100 тысяч злотых,** а статыстычны трактар выпрацаваў тут 1012 гадзін.

Зараз сельгасгурткі Бельшчыны карыстаюцца 260 трактарамі з камплектамі патрэбных машын і 190 самачышчальнымі малацілкамі. Пры дапамозе ўспомненых машын гурткі і базы рассеялі 1216 тон вапны, апырскалі 7484 гектары раслін і выканалі іншыя працы.

Вялікі ўплыў на дасягненне лепшых прадукцыйных вынікаў мела **вясковая спулдзельчасць,** у радах якой 15 тысяч членаў. На працягу 1967—68 гадоў пабудавана 5 вясковых крамаў, адкрыта 8 новых складоў скупкі збожжа, сарганізавана 8 пунктаў камісовага продажу мінеральных угнаенняў і іншыя. Вартасць паслуг спулдзельчасці ў мінулым годзе замкнулася лікам 7.825 тысяч зл.

Павялічыліся паслугі **малачарскіх спулдзельняў.** Пераказана ў карыстанне гаспадарам, за апошнія два гады, 15 пунктаў скупкі малака. Акруговыя спулдзельні апрача, а можа перш за ўсё, дзякуючы працы з дастаўшчыкамі малака сістэматычна паляпшаюць якасць прадукцыі. Малачарская спулдзельня ў Бельску ў 1967 годзе, другая ў краіне, атрымала найвышэйшы якасны знак у сусветных маштабах за прадукцыю масла.

Гаворачы пра малако нельга не ўспомніць жанчын. Бельскія жанчыны згуртаваны ў 167 гуртках **вясковых гаспадынь (КГВ).** У КГВ Бельскага павета адбылося 110 паказаў, заложана 40 даследчых палетка́ў, сарганізавана 96 курсаў. Большасць гурткоў вясковых гаспадынь вельмі актуальна ўключаецца ў кіраванне сельгасгурткамі.

Прыведзеныя прыклады сведчаць, што і сельгасгурткі і іншыя формы самакіравання на вёсцы сталіся поўнасцю заангажаванымі арганізацыямі ў асяганні лепшых прадукцыйных вынікаў у сельскай гаспадарцы, у аблягчэнні і паляпшэнні прадукцыйнасці працы гаспадара.

**А. К.**

# Ян Гушча — папулярызатар беларускай літаратуры ў Польшчы

Як даведваемся, услед за перакладамі на польскую мову прозы Шамякіна, Мележа і Быкава ў бліжэйшы час з'явяцца ў друку далейшыя пераклады, тым разам паэтычных твораў. Лодзінскі пісьменнік **Ян Гушча** ўвосень мінулага года наведаў Беларусь і ў выніку гэтай паездкі зацікавіўся справай перакладаў на польскую мову вершаў беларускіх паэтаў — і ўвогуле справай папулярызацыі беларускай літаратуры ў Польшчы.

Зараз пераклаў творы каля **дваццаці** беларускіх паэтаў, м. ін. Барадуліна, Макаля, Вярцінскага. Апрача таго Ян Гушча рыхтуе Варшаўскаму радыё перадачу, прысвечаную беларускай літаратуры і яе забыткам, а таксама навязаў сувязь з месячнікам «Паэзія» дзеля змяшчэння падборкі вершаў беларускіх паэтаў разам з інфармацыйным уступам і бібліяграфічнымі даведкамі. Вершы Барадуліна і Вярцінскага змесціць варшаўскі сатырычны часопіс «Шпількі», а іншы верш Вярцінскага змесціць сатырычны часопіс «Карузэля».

Асаблівую цікавасць праяўляе Ян Гушча да паэзіі Максіма Багдановіча.

На старонках лодзінскага часопіса «Одглосы» ад 12.І.69 г. Ян Гушча змясціў вялікі рэпартаж са сваёй паездкі ў Беларусь. Загаловак рэпартажа: **«Мінскія сустрэчы».**

«Думаю аднак, што надалей не занадта ведаем нашы літаратуры, — піша Ян Гушча. — Большай чым дагэтуль увагі патрабуе беларуская паэзія. Параўнальна найляпей ведаем творчасць Танка.

Але нават, калі гаварыць пра класікаў, ці ж вядомы нам Багдановіч?»

(ся)

# Чаму не хочуць камасацыі?

Сяляне вёскі Ячна ў Дуброўскім павеце маюць 38 га вясковага выгану. Хацелі яны, каб гэты выган раздзялілі землямеры сярод гаспадароў, таму што кожны індывідуальна лепш выкарыстаў бы яго. На гэта не згадзіліся геадэзісты і сказалі, каб жыхары Ячна падпісаліся, што не хочуць камасацыі. Сяляне так зрабілі — падпісаліся.

І такім чынам устрымана там камасацыю зямлі. А шкада, таму што цераспалосіца ўжо усім даўно надаела.

**(мм)**

# З нагоды паўстагоддзя

У павятовым доме культуры ў Сямяцічах пры дапамозе Мілейчыцкага аддзела БГКТ арганізавана фотавыстаўка аб жыцці і працы людзей Савецкай Беларусі. Карыстаецца яна вялікім зацікаўленнем. (мх)



**І. Фёдараў у Заблудаўскай друкарні.**

і пропаведзей, у той час як «Псалтыр» складаўся з самых разнастайных па зместу песняпенняў і філасофскіх афарызмаў. І гэта не выпадкова. Трэба было даць у рукі мясцовай інтэлігенцыі такую кнігу, якая дапамагала б авалодваць неабходным мінімумам ведаў і палемічным майстэрствам у барацьбе з каталіцкай агрэсіяй. І такую кнігу заходнерускі чытач хутка атрымаў. Само сабой зразумела, што ў эпоху рэлігійнага светапогляду яна не магла не быць багаслоўнай. Але ў пачатку яе з чытачом размаўляў не міфічны творца біблейскіх легенд і паданняў, а перадавы грамадскі дзеяч славянскага свету. Яго поўныя жыцця прадмовы і пасляслоўі прасякнуты шчырым імкненнем узняць маральны дух брацкага народа і дапамагчы яму ў барацьбе супраць нацыянальнага і рэлігійнага прыгнёту. Каб быць бліжэй да беларускага народа, Іван Фёдараў меў намер перакладаць свае кнігі на простанародную мову, аб чым ён прызнаецца ў прадмове да першага заблудаўскага выдання. Люблінская унія перакрэсліла намеры «маскоўскага першадрукара». Здарылася якраз так, што ў нейкі крытычны момант ідэйна спустошаны і маральна расчараваны гетман раптам адмовіўся, з палітычных меркаванняў, ад утрымання ў сваёй феадальнай вотчыне рускай друкарні. У знак пашаны да Івана Фёдарава, гетман прапанаваў яму ў асабістую ўласнасць маёнтак, але вечны кнігалюб ветліва адмовіўся ад сытага дастатку і без ваганняў абраў цярністы шлях у імя кнігі. Пакінуты Пятром Мсціслаўцам, які перайшоў у віленскую друкарню купцоў Мамонічаў, Іван Фёдараў падаецца на брацкую Украіну і тут, у старажытным Львове, стварае буйную друкарню.

Пра Івана Фёдарава, які паводле некаторых гістарычных крыніц паходзіў з Беларусі, мала сказаць, што ён рускі першадрукар. Ён быў, акрамя ўсяго, выдатным пісьменнікам-мысліцелем славянскага свету, буйным вучоным-лінгвістам, які ўнёс вялікі ўклад у развіццё рускай, беларускай і ўкраінскай літаратур. На працягу свайго падзвіжніцкага жыцця Іван Фёдараў «стварыў, — кажа яго біёграф прафесар А. Сідараў, — па меншай меры чатыры друкарні: у Маскве, Заблудаве, Львове і Астрозе. Ён быў не толькі лепшым з маскоўскіх першадрукароў... Ён быў узнавіцелем — пасля Скарыны — друкарскай дзейнасці ў Беларусі і пачынальнікам, першадрукаром на Украіне».

Гістарычная дзейнасць Фёдарава мела глыбокую народную аснову. Яна дала магутны імпульс новаму творчаму ўздыму брацкіх усходнеславянскіх літаратур, садзейнічала станаўленню народнага мастацтва.

**С. Майхровіч**



 

